варэза с прэстолу і збавіць людзей ад ганебнай быдлячай сьмерці. Дык адкульжа тут магла вырасьці тая культурнасьць, калі гісторыя гэтага народу ня давала жаднага грунту!

І усё гэта на Маскоўшчыні дзеялася у тыя часы, як у нас, на Беларусі, усе пытання дзяржаўнага зьместу разважаліся на вальных соймах, калі усе землі Літоўска-Рускага гасударства карыстаюцца шырокай аўтаноміяй і каролі абіраюцца на прэстол дзяржаўнаю радаю. Вось як, напрыклад, кароль Казімер перад сьмерцю упрашае Раду абабраць на караля сына яго Александра: «Будучы ему в Городне, паразумел што уже с тое хоробы выйті немог, і он узвал к собі паноў рад сваіх, Велікого Князства Літовского в ложніцу на пакоі, і начал іх прасіті вельмі умільна і покорне, штобы панове рада узялі собі гаспадаром на Князство Літоўское сына яго серэдольшага Александра каралевіча; і панове рада відечы гаспадара своего так покорне просячы і к тому памятаючы, іж он Князство Літовское добрэ раділ і справовал, і на то прызволілі по жывоте его взяті на Велікое Князство Літовское сына его королевіча Александра». [Летапіс Быховца, стр. 62].

Культурнасьць—ня матэматыка,—яе выўчыць німагчыма. Культурнасьць гадуецца векамі. Яна ня пераймаецца праз «вакно у Эўропу»,—гэта ня пранцузскі парык і ня прускі мундзір. Культурнасьць людзкая ствараецца самымі людзьмі і вырастае на грунці гістарычнага выхавання...

Беларусы, ратуйце айчыну нашу ад заразы с цэнтру і ня давайце краю свайго на паталу барбарам, хоць-бы то былі і маскоўскія сацыалісты... Разгарнеця кнігу уласнай гісторыі і адтуль набірайцеся сілы, знацьця і разумнага дасьледу. Айчына наша спакон веку жыла уласным жыцьцём, і ўсе народы у нашым гасударстві цешыліся самабытнасьцю, воляй і фэдэрацыйнай дзяржаўнасьцю. Чытайце гісторыю продкаў сваіх, шукайце нарады у дзядоў вашых!..

Я. Л—к.

## Наша павіннасьць.

Калі гаспадар хоча, каб яго гаспадарка давала яму карысьць, ён павінен дбаць і рупіцца аб ёй. Возьмем, напрыклад, гаспадарку селяніна-хлебароба: калі поле ўпору загарэцца, засеяцца збажыной, ўпору накорміцца скаціна, ўпору залатаюцца дзіркі на страсе будыніны, направяцца калкі ў плоці, дык можам быць пэўнымі, што гэткая гаспадарка не падупадзе, а будзя шырыцца і даваць карысьць свайму гаспадару. Людзі назавуць такога чалавека рупным і працавітым гаспадаром, чалавекам дбавым і разумным. Але, каб быць гэткім гаспадаром, трэба мець шчырую любасьць да свае гаспадаркі і быць адданым ей. І так гаспадар павінен памятаваць аб усім, чаго патрабуя ад яго гаспадарка: бо, калі ён хоць на кароткі час забудзяцца, дык поле незагаранае і незасеянае зарасьце травою, ненакормленая скаціна падупадзе на сілах і ня будзя здатна да працы, праз незалатаную страху будзя ліцца дождж і без пары згніе будыніна; адным словам, гэтая гаспадарка будзя падупадаць с кожным днём, а сам гаспадар яе, хварэючы з голаду, будзя пазычаць у суседзяў грошы на сваё жыцьцё. І вось, не маючы з чаго аддаць пазычаныя грошы ані плаціць працэнтаў, змушаны будзя аддаць суседзям сваю змарнаваную гаспадарку і пайсьці па жабраніны. І чалавек з гаспадара стане—старцам.

Як з гаспадаркай хлебароба, так сама робіцца і з краем цэлым. Край—гэта тая самая гаспадарка, толькі што вялікая, і працуюць дзеля утрыманьня яе цэласьці, дабрабыту і лепшай будучыны мільёны гаспадароў. Дзеля нас, беларусаў, гэткай гаспадаркай ёсьць нашая старонка, Беларусь.

Калі мільёны беларусаў будуць шчыра любіць сваю бацькаўшчыну і будуць дбаць аб яе будучыні, калі ўпору будуць спаўняць тую павіннасьць, што вымагае ад іх дабрабыт нашага краю, дык можам быць пэўнымі, што наша бацькаўшчына-Беларусь будзя старонкай шчасьлівай, вольнай і сьмела будзя ступаць у сьветлую і радасную будучыну.

Дык мы павінны мець пачуцьцё шчырых сыноў свае старонкі і дбаць аб яе будучыну, бо калі мы занехаем дбаці аб ёй, дык будзя так, як с тою гаспадаркаю, якую гаспадар парою не загараў, не абсеяў і будоўлі не направіў. Суседзі нашы скажуць тагды, што мы не здатныя да гаспадаркі над нашым краем і край наш возьмуць у свае рукі, а мы пойдзем па жабраніні.

Да яно так і было! Край наш знаходзіўся у чужых руках, чужыя людзі гаспадарылі ў ім, нішчылі яго да шчэнту і лепшых сыноў яго не дапушчалі да працы над адбудовай краю, каталі іх, садзілі ў цямніцы і ссылалі ў Сібір.

Праўда, ў 1905 годзі бліснула беларусам надзея, але гэта была толькі надзея; жыць нам не давалі аж да гэтага часу. І вось, калі цяпер ніякія перашкоды не стаяць на дарозі нашага жыцьця, мы павінны хутка прыступіцца да працы над адраджэньнем нашай дарагой бацькаўшчыны. Браты! Цяпер толькі час адбудаваць тое, што вякамі хінулася: падмуроўка ўжо ёсьць! Трэба ставіць сьцены, а на гэта нам трэба шмат супольнай працы. Дык злучаймося ў гурткі, браты дарагія! Будзямо памагаць нашай справі, хто чым і як можа! Будзямо старацца, каб не астацца ад нашых суседзяў, будзямо старацца рабіць так, каб нам ня было посьля брыдка сустрэцца з нашымі братамі, што цяпер жывуць і працуюць у заборы нямецкім, каб мы маглі сьмела глянуць ім у вочы і сказаць: мы усё зрабілі, што маглі!

Дык злучаймося, браты! Утворымо адно цэлае, неразлучнае, адну нашу дарагую бацькаўшчыну, нашу Беларусь. Цяпер, або ніколі!

Язэп Шпэт.

## Мае школьныя успаміны.

Мне было ужо гадоў шэсьць. Брат мой, Міхась, старэйшы за мяне на 3 годы, хадзіў у школу і, як праўдзівы беларус, ня вельмі разумеў расійскую грамату. Бывала, ён зубрыць свой урок, і урок несвядома дзеля мяне, лажыцца ў маю галаву, і я пасьля сам гавару яго на памяць, як аўтамат, напрыклад: «У кота, воркота, была мачеха лиха» і т. д. Што гэта быў за «варкот» і якая у ката магла быць мачыха,—я ня разумеў. Ня разумеў мусіць і мой нешчасны брат, бо памятую, вушы у яго былі вельмі вялікія, а пад вушамі і з бакоў высыпка. Я тагды ня разумеў, с чаго гэта. Музыкальных талянтаў брат ня меў. У яго, як кажуць, мядзведзь на вуха наступіў.

Раз было ў бацькоў якоя-сь дамавое сьвята. Быў заклікан вучыцель з рыжай шырокай барадой. Яго пасадзілі на покуць ды частуюць, а мне сказалі, каб я гаварыў: «У ката, варката.» Я і пачаў гаварыць дурацкі верш. Вучыцель пахваліў мяне і сказаў бацьком маім, што мяне пара аддаць да школы.

У восень аднаго дня, зрання, маці апранула мяне і навучыла, як адказываць у школі. «Як запытаецца цябе вучыцель, колькі табе год, так ты скажы—сем, а як запытае, як твае прозвішча, дык скажы Д.» Павёў мяне брат у школу, бо я яшчэ ня ведаў, дзе яна, хацяж школа была ня вельмі далёка ад дому, за магазынам, каля «рускіх» магілак, пад гарою.

У школі вучыцель, запісваючы, запытаў мяне: «Ну, что ж, ты пришёл учиться»?--«Але,» адказываю я.--«Не але, а «да», сказаў настаўнік, і мне зрабілося вельмі цяжка. «Как твоя фамилія?» Што гэта за фамилія, думаю я, чы не Амілія, знаемая кабета. І я пытаю: «Амілія?» Тут мне стала вельмі брыдка. Другіе вучэнікі адказалі за мяне, і мяне пасадзілі на скамейку, разам з гарбатым Гжэгушам, маім равесьнікам, сынам ўдавы каваля Юзэпа. Кніжкі з цацкамі, як абецалі мне бацькі, пакуль што не далі мне. Вучыцель нешта піша на дасцэ, другія дзеці чытаюць, а я гляджу, як баран ў ваду і нічога ні цямлю.

Мусіць з нядзелю —вучыцель ні чапаў мяне, а посьля нешта запытаў і начаў біць. «Эгэ», думаю сабе: «тут ня даюць кніжак з цацкамі, а яшчэ бьюць,—уцяку да дому.» Харошая цёплая васенняя пагода. Бацька гарэ валамі на засьценку. Прыходжу я да дому, а бацька убачыў мяне ды с пугаю за мною. Скінуў я сівы суконны кафтан ды ў адной кашулі і портках прыбег ў школу. «Ты почему прибѣжал без пальто!»—«А чаму Гжэгуш?» кажу я. «Так и ты сдѣлай себѣ такую рубашку і носи её!» Гжэгуш быў ў чырвонай сарочцы. Гэты самы Гжэгуш запыняў мяне, як я уцекаў, да дому, але дарэмна.

Усякае знаньне вучыцель К. убіваў дзецям страшэнным біцьцём, і гэта быў яго універсальны мэтод.

Зразумеў я тагды, дзеля чаго гэта у майго брата вушы такія вялікія і ледзьве грымаюцца.

Калі параўняць нашу школу з Масковіей, а яе вучыцелёў з царамі, дык гэты К. быў не іначэй Іван Грозны нашае школы.

Чытач нехай знае, як ён біў нас. Бярэ ён аднаго і другога вучэніка за

---

рацзкія, ажна слухаць брыдка. Во ў чым твая адукацыя—ня быць мужыком. Не, татка,—той чалавек толькі і варт пашаны, каторы свайго трымаецца. А вы, праз дурнату сваю, называеця усё роднае «мужыцкім» і самім сабе у твар плюіцё... Што скажэш ты, дзядок, мо' я непраўду кажу?

Дзед заўсёды болей другіх сваіх ўнукаў любіў Сёмку і цяпер ён, седзючы на печы, пікаючы люльку сваю, ківаў галавой, назіраючы на Сёмку ды толькі цешыўся.

— Дай табе Бог здароўячка, ўнучак ты мой! Як ты разумна гаворыш!—казаў дзед.

Нешта расце у сэрцы Сёмкі. Вочы яго блішчалі.

— Мову бацькоў і дзядоў нашых ты, татка, „хамскай“ называеш, а сам стараешся падрабіцца пад дэлікатэс польскай або расійскай мовы, ня ведаючы ні першай ні другой... Любы табе гэтыя мовы дзеля таго, што паны на іх гаворуць... Говоруць тыя, каторых мы, «мужыкі», узгадавалі на плечах сваіх, крывёй, сьлязьмі нашымі... Тыя, каторыя, у часе паншчыны, разлучалі дзяцей з бацькамі сваіх паддапых, дзеля сваёй пацехі. Або каталі да сьмерці бацькоў і дачок іхных гвалтавалі. Сорам, татка, сорам вучыцца жыць на іхны лад! На лад тых, што ад жыру ашалелі. Нам сваім асобным шляхам ісьці трэба!

Усе у хаці дзівіліся з гэткай гутаркі Сёмкі. Бацька чухаў патыліцу і ня ведаў што адказаць.

—Ці-ж гэтак?—дзіву даўся Андрэй:—ці-ж гэтак?

— Гэтак, сынку, гэтак!—загаварыў дзед с печы—я добра ведаю!

Стары дзед выпрастаўся, лысы, з белай, як сьнег, барадой, у белай сарочцы, ён выглядаў старасьвецкім апосталам.

— Вы, дзеткі мае,—казаў дзед:—ужо гэтулькі ня выцярпелі, колькі я! Мяне лічылі добрым гаспадаром за тое, што я ня піў і ня марнаваў гаспадаркі. Але ці у тых часох наш брат мог быць гаспадаром?! Мой бацька, нябошчык, вечны пакой яго душы, і стараўся, і болей мяне працаваў. Толькі якая карысьць была з яго працы, якая пацеха? Яго с панскай ласкі забілі да сьмерці, як не хацеў аддаць у двор маладую дачку сваю. Нібы ваўкі, былі тыя паны, во дзе яны у мяне сядзяць—у хворых і балючых грудзях маіх!..

Дзед закашляў хрыпла і доўга, па-старыкоўску.

— Але цяпер-жа німа гэтай самай паншчыны тваёй!—адазваўся салдат—дык на што ты, дзядок, дарэмшчыну пляцеш?

— Ведама німа,—падхапілі усе, апрача Сёмкі.

— Німа, кажэця?—з нейкай крыўдай у голасе пытаўся дзед, абводзючы усіх сваімі старчымі сумнымі вачыма—німа, кажэця?—Ой, мана гэта! Ой, мана! —у душы вашы яна ўелася, як тыя карэньні благія усе роўна; як тая погань, што людзей са сьвету зводзіць... Ваша паншчына у тым, што вы самі сябе сароміцеся... Пад вашымі пэркалёвымі манішкамі б'юцца сэрцы нявольнікаў прыгону. Пад дзесяткам расійскіх, або польскіх выбэканых вамі слоў, чую я той, балючы, панскі бізун, каторы сьвістаў у паветры і дыміўся у крыві мужыцкага карку. Гонару німа у вас,—во што!..

Дзед выпрастаўся і нібы памаладзеў...

—Ой, дарэмна недаўна сьвяткавалі у нас пяцідзесятую гадаўшчыну знішчэньня прыгону! Сумна было мне глядзець тады на нашых пьяных селян і думаў я: яшчэ не прышоў той вольны дзянёк, яшчэ німа яго! Бо душы нашы яшчэ у кабале ды ахвотна прыгон адбываюць...—Во хіба хто нас с прыгону вызваліць! —і ён паказаў рукой на Сёмку—ўнукі нашыя! І тады пачнецца праўдзівая сьвята на вёсцы...

Нібы хваля падхапіла Сёмку ды кудысь панесла ад дзедавых слоў. Нешта у грудзях яго сьціснулося, падступіла да горла, сьлёзы накруціліся у вачох і ён чуць стрымаўся, каб не заплакаць ад раднага пачуцьця.

-- Аднак згаварыліся дзед з унукам,—як асьцёбаны,—прамовіў Андрэй.—Згаварыліся!—падхапілі усе у хаці:—згаварыліся!

Сёмка, заўсёды, прыехаўшы на сьвята дамоў вельмі любіў быць разам з равеснікамі сваімі, якія часам стараніліся яго, як сына багатыра. Але пазнаўшы нарэсьці, што у яго німа бацькаўскай пагарды,—усе яго вельмі палюбілі. Ен ім чытаў кніжкі, усе разам сьпевалі, скакалі і хадзілі на рыбу, або на сенакос.

Але часам любіў ён пахадзіць адзін дзе колечы за старым млынам на лузе, або у маладым бярэзніку і думаць асобна думкі свае.

Соткі думак, нібы птушкі, луналі ў яго галаве. Усе яны заўсёды кіраваліся, нібы кветкі да сонейка, да адной мэты—адраджэньня роднага краю, адбудаваньня свае бацькаўшчыны.

Розныя пляны адкрыдлялі яго душу і давалі моц да новай працы.

Рад быў Сёмка, што яшчэ такі малады—шмат чаго зрабіць можна будзе дзеля свайго народу.

Гэта пачуцьце і пераканаяньне с кожным годам мацнело і расло ў яго душы, як добрае насеньне на добрым грунці. Чым болей хто з яго таварышоў знаёміўся з гэтым рухам, чым болей расла грамада прыхільнікаў—тым болей гарэлі яго вочы і жыцьцё і радасьць кіпелі у яго грудзях.

Цяперака, пасьля вядомай перапалкі у хаці з бацькам, ён вышаў засмучаны і пашоў адзін у блізкі лес. Салодкая безпакойнасьць панавала у яго сэрцы.

Ен агледаўся па бакох.

Усюды весна...

Так і пахне,—так і з'яе, так і хмеліць...

Галіны на дрэвах зрабіліся ліпкімі і пахучымі. Трава заселянелася першай зеляньню. Пралескі, нібы пчалінкі, абсыпалі усе лагчыны. Усюды красавалі іхныя сямейкі...

Пад чыстым, ясным небам кружыліся жаваранкі і іншыя птушкі. Прыляцелі буслы і шпакі. У гушчары, за канавай, балбатала цяцера. Рэчка была перапоўнена вадою...

А сонейко... Божэ ты мой, якое сонейко! На-

Мусім ведаць, што мелеям,
Што паволі ўсе малеям,
Ня жывём, але канаем,—
Зранку долы вымераем
І надзею што-дзень губім,
Хоць яе, як жыцьце любім.
  Нашы брацьця — там, на волі,
  Палеглі моў-ся на полі,
  Чыстым полі ваявецкім
  Велькім колам маладзецкім,
  З пасячонымі плячымі
  З выпалёнымі вачыма.

Мы зьявілісь з яснай казкі,
Братняй міласьці і ласкі,
З краю-Далі, краю-Сьвета,
Дзе цяплюхна, вечне лета,—
А нас кінулі у пушчы,
Ды у холад, ды й у гушчы,
Дзе брат з братам вечне б'юцца
Спруцянелі, а дзяруцца.
  Мы хацелі даць ім сьвету,
  Зруйнаваці пушчу гэту,
  Даць ім міласьці прагненьне,
  Дзён шчасьлівых даці меньне.
  Мы ішлі вялікім валам,
  Войскам буйным, а зухвалым,
  Ды ні стала нашай мочы:
  Сьвет слабейшы быў ад ночы...

Што-ж? Ніхай! Ніхай так будзе.
Мусіць гэтак доля судзе.
Цяжка, страшна жыці, праўда,
Дык цярнеці-ж нам ні наўда.
Так на моры—акіяне
Часам хваля перэстане...
Можа-ж прыйдзе навальніца,—
Толькі-б ветрыку з'явіцца!—
  Будзям ў неба цікавацца,
  Будзям зорак прыглядацца,
  Бяз пакоры у пакоры
  Перабудзем сваё горэ.
  Мо і нам, аднекуль з неба
  Скажуць: «Чуйце, ўстаньце, трэба!»
  У ўзмацняць.— Парвуцца путы,
  Будзе вольны, хто закуты.
Ні адны, а з грамадою,
Разам з людзьмі, чарадою
Пойдзем поплеч зноў у далі,
Скуль прышлі і скуль паўсталі.
А калі-ж ня хопіць сілы
Устаць на гэты воклiч мілы,—
Сэрца хоць мацней заб'ецца,
Твар пахмуры усьміхнецца...
  Можа-ж быць раней загінем,
  Дык усё-ж мы сьлед пакінем,
  Бо, браток, хоць промень сьвету
  Прынясьлі мы ў пушчу гэту!

Алесь Гарун.

Сібір, 1912 г.

# Апошнія навіны.

## Агульныя весткі.

### Права карыстацца роднай мовай.

Нацыанальны аддзел міністэрства ўнутраных спраў апрацаваў законапраэкт аб забяспечэньні права карыстацца роднай мовай пры зносінах з органамі упраўленьня, самакіраваньня і судовых установах.

### Пытаньне аб пагромах.

Фракцыя нацыан.-сац. партый унесла у прэзыдіум Рады Рэспублікі заяву, аб неухільнай патрэбі зьвярнуць увагу на пагромы і непарадкі, якія с кожным днём павялічваюцца, і на падпольную агітацыю, каторая вядзецца цёмнымі сіламі і прыгатаўляе грунт для пагромаў.

Фракцыя прапануе, каб Рада Рэспублікі выдала ад сябе спэцыяльную адозву у гэтай справі.

### Школьныя весткі.

Міністэрства Народн. Прасьветы заявіло, што паступленьню у вучыцяльскую сэмінарыю не павінны перашкаджаць рэлігійныя пераконаньня вучня.

### Аб нацыаналізацыі войска.

Карэспандэнт укр. «Новай Рады» паведамляе с Петраграду, што ў звязку з закончэньням летняй кампаніі станоўча зьмяніліся і адносіны ваеннага міністэрства і ваеннага міністра да справы національна-тэрыторыяльнага комплектаваньня войска і пераменаў ў ім адпаведна нацыянальнаму прынцыпу. Справа стварэньня нац. украінскага войска дзеля таго цяпер мусіць пайсьці лепей. Есьць думка устанавіць асобную інстытуцыю нацыанальных камісараў па вайсковым справам, компэтэнцыя якіх у адносінах да нацыанальных войск маё быць на ўсю Расію. У першы чарод маюць быць устаноўляны пасады камісараў: украінскага, грузінскага і польскага.

## З забранага краю.

### Польскія апэтыты.

Нямецкая газэта «Franfurter Zeitung» піша, што ў старшыні аўстрыйскага польскага кола была дэпутацыя з Вільні і Коўны і падала яму мэморыю літоўскіх палякаў, у якой выказана жаданьне, каб цэнтральныя дзяржавы выгаласілі незалежнасьць Літвы, злучанай с Польшай на грунці уніі.

Другая нямецкая газэта «Berliner Tageblatt» піша: «...ёсьць бязспрэчным фактам, што значная часьць палякаў, посьля рэвалюцыі расійскай, ізноў зьвярнулі свае вочы на ўсход. Але нават і тыя колы, пагляды якіх розняцца ад пагдядаў Расіі і якія с панам Студніцкім на чэлі шукаюць лучнасьці з дзяржаваю нямецкаю, дамагаюцца ня толькі ўласнага караля, звальненьня ад нямецкага апякунства і нізалежнасьці, але, адначасьня з гэтым, і значнага пашырэньня граніцаў Каралеўства Польскага с прылучэньнем да яго Літвы і Беларусі. Так сама Курляндзія мела быць далучана да новага Каралеўства Польскага, хоць, праўда, ў такой формі аўтаноміі, якая адпавядае адносінам паміж Кроацыей і Вэнгрыей. Так сама і за Літвой была бы прызнана тэрыторыяльная аўтаномія. Пан Студніцкі падмацоўвае свае жаданьня тым, што Польша без сваіх усходніх акраін, бяз Курляндзіі, Літвы і Беларусі, эканамічна не магла-б жыць.»

Італьянская газэта «Corriere d'Italia,» гаворачы аб важнасьці папскай ноты ў справі замірэньня, паміж іншым піша: «...Што належыцца да Польшы, дык нота выразьня гавора аб даўным Каралеўсьцьві Польскім, а не аб Польшы падзелянай, або ўціснутай у вузшыя граніцы, гавора аб Польшы, аб канечнасьці вызваленьня якой на час цяперашняй вайны адазвалося столькі галасоў. Нота папы выразьня гавора аб даўнейшым Каралеўсьцьві Польскім або, інакш кажучы, дамагаецца аб'еднаньня Польшы расійскай, нямецкай і аўстрыйскай разам з Літвою і Галіцыяй.

Нямецкая газэта «Yossische Zeitug» піша, што надта волі палякам даваць ні трэба, бо яны будуць старацца яшчэ горш уціскаць народы, творачыя нацыанальныя меншасьці ў Польшы, чым іх самых раней цісьнулі. «...Досіць прыпамятаць—кажа газэта—аб прынятай на канфэрэнцыі гр. Чэрніна з Гэльфэрыхам пастанові аставіць за палякамі права апрацаваньня парадку выбараў да Польскага Установучага Сойму. Ясна, што гэты парадак будзя анцісэміцкі, анцібеларускі і анцінямецкі. Звольніўшы палякаў, мы аднача сьня з гэтым афяроўваем усе няпольскія народы на уціск ад палякаў. Наканец, паміма ўсяго зробланага немцамі для палякаў, Сойм можа выказацца проціў хаўрусу Польшы с цэнтральнымі дзяржавамі. Ужо й цяпер палякі што раз энэргічней дамагаюцца прылучэньня да Польшы Курляндзіі і Літвы.»

### Пратэст Літоўцаў.

Літоўскае Бюро у Швэйцарыі паведамляе: Начэльная Народная Рада пратэстуе проціў мэморыі а Літве, прэдстаўленай 18 красавіка [апрэля] праз дзе-якое польскае староніцтва нямецкаму канцлеру, у якой выслаўляецца заклік злучэньня Літвы і Польшы, а так сама і проціў пратэсту польскіх груп з 9-га жніўня [аўгуста]—проціў аддзелу Літвы ад Польшы. Начэльная Рада заяўляе, што гэтакія акты здрады правіцяльству будуць аддавацца пад суд залежнай улады на Літве.

### Дамаганьня украінцаў і украінскі кароль.

Львоўскае «Діло» памесьціла заяву аднаго выдатнага украінскага пісьменніка, прозьвішча якога яна аднак не памеяе, дзе паміж іншым гаворыцца аб утварэнні аддзельнай украінскай правінцыі пад ўладай Габзбургаў. У склад гэтае правінцыі павінны ўходзіць: сярэдняя часьць Галічыны, паўночна-заходняя Букавіна і паўночна-усходнія Вэнгры. Правінцыя гэткая займала-б мейсца у $7500^2$— і у 5 мільёнаў насяленьня. Украінцы ставюць і падкрэсьліваюць вышэйнамянёную пастанову, зьвертаючы аднача сна увагу на свае здабыткі у Расіі.

Украінскае Бюро у Лёзанні паведамляе, што у Ведні (Вена) разважаецца кандыдатура вялікага князя Вільгэльма на караля Украіны. Кандыдатуру гэту прыемна вітаюць дзе-якія кругі галічанскіх украінцаў. Калі-б толькі Украіна мела быць каралеўствам, вялікі князь Вільгэльм быў-бы, мабыць, ядыным кандыдатам дзеля таго, што нават навучыўся гаварыць па украінску. Вялікі князь Вільгэльм—сын вялікага князя Кароля-Стэфана з Жыўца. Ужо і цяпер ён шмат памагае у справах украінскіх, здабываючы сабе сымпатыі і папулярнасьць у ўсходняй Галічыні.

### Прывітанне мітрапаліта графа Шэптыцкага у Львові.

З Львова паведамляюць, што 9-га верэсьня прыбыў сюды вялікі князь Вільгэльм, каб у імені цара прывітаць мітрапаліта Шэптыцкага.

Папаўдні прыехаў да Львова мітрапаліт Шэптыцкі і быў урачыста прывітаны. У кватэры дворскай пачэкальні, пры вакзалі і багата, пекна прыбранай, сабраліся члены прывітальнага камітэту, грэцка-каталіцкая капітула, прэдстаўнікі украінскіх арганізацый, намесьнік места ген.-маёр Новотны, рым-кат. біскуп Більчэўскі с капітулай катэдральнай, прэдстаўнікі жыдоў і розныя другія.

Каля гадзіны 3-цей зьявіўся на вакзалі вялікі князь Вільгэльм і пад зыкі гымну народаў прашоў перад пастаўленым пачотным палком.

Мітрапаліт прыехаў у салонным вагоні, сумысьля для яго прызначаным.

Вялікі князь прывітаў мітраполіта у імені цара. Мітрапаліт выславіў сваю падзяку за гэткую чэсьць.

Посьля у імені украінскай дэпутацыі гаварыў К. Левіцкі па нямецку і украінску, дзякуючы за прыхільнасьць аказанную украінскаму народу і за чэсьць прыезду вялікага князя.

Вялікі князь адказаў:

Яго царская Мосьць хацеў, дзеля аказаньня іпчэ раз сваёй прыхільнасьці за патрыатычныя адносіны вашага мітрапаліта даручыць мне прывітаць мітрапаліта ад яго імяні.

Вельмі мяне гэта цешыць, што магу данесьці цару, што прэдстаўнікі украінскае людпасьці скарысталі з гэтаэ магчымасьці, каб праз сваіх пасланнікаў выславіць пры мне столькі раз выпрабованую сваю лойяльнасьць [па руску]. Прашу паноў выказаць ад майго імені народу украінскаму шчырую падзяку за ваша прывітаньне і за патрыатычныя пачуцьця у адносінах да цара і улады.»

Словы вялікага князя былі прыняты крыкамі «Гох» і «Многая літа!»

Вялікі князь прасіў пасьля прэдставіць сабе быўшых там прэдстаўнікоў духавенства і украінскіх арганізацый і с кожным з іх гаварыў.

Калі пасьля мітрапаліт з вялікім князям увыйшлі у пачэкальню, прывіталі іх моцныя крыкі «Многая літа!»

Мовы павітаньня гаварылі арцыбіскуп Більчэўскі, намесьнік правіцельственнага камісара Федлер у імені места, д-р Вассэр і д-р Браўдэ у імені жыдоўскага прывітальнага к-ту і ад укр. арганізацый д-р Фэдяк і пасол—К. Левіцкі.

Мітрапаліт і вялікі князь паехалі з вакзалу ў уквечанай калясі. На усей дарозі з вакзалу да катэдры грэцка-каталіцкай іх сустрэчала грэцка-каталіцкае духавенства, прэдстаўнікі розных украінскіх арганізацый са сьцягамі, члены розных братцтв, вучні і вучэніцы украінскіх школ і шмат другіх.

Перад катэдрай прывітаў у імені украінцаў пасол Загайкевіч і кс. Вайнароўскі.

У катэдры было адпраўлена набажэнства, якое закончылася казаньням, пасьля мітрапаліт усім коратка падзякаваў.

Вечарам мітрапаліт прымаў у сябе.



# Вайна.

Паўночны фронт. На Рыжскім кірунку, у мейсцовасьці Пскоўскай шоссы і ракі Эгель непрыяцель нішчучы будынкі, псуючы дарогі і разбураваючы масты адступіў ад сваіх ранейшых пярэдніх пазыцыяў вёрст на 20 у тыл. Нашы перадавыя часьці і каманды разведчыкаў патроху адкрываюць новыя пазіцыі непрыяцеля, то там, то сям робючы з ім дробныя спатычкі.

Заходні, Паўдзённа-заходні і Румынскі фронты—стрэляніна.

Каўказкі фронт. Нашыя каманды разведчыкаў выбілі туркаў з Мерізанскай даліны і дайшлі да паўдзённа-ўсходняга берагу возера Зерысар.

На Балцiйскім моры. Наш флот сьцеражэ падходы да фінскай затокі. На рэйдзе Куваіст знайходзіцца частка нямецкага флоту, у якой ёсьць дрэдноты. Проба праціўніка высадзіць сухапутнае войска у мейсцовасьці Томба была адбіта агнём нашага берэгавога войска.

**15-га кастрычніка у Мінску адчынілася II сэсія Цэнтральнай Рады Беларускіх арганізацый.**

Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-ва Беларускай Культуры.»
Друкарня Н. М. Нахумова. [старшага].